# Увага! Наша газэта – штотыднёвік!

http://navinki.port5.com

НАВІНКІ

3 - 10 красавіка 2002 №7(56) Кошт свабодны

**З 1 сакавіка наша газэта ўжо перайшла на тыднёвы рэжым працы. Ня шчоўкайце хлябалам! ПАЧЫНАЮЧЫ ЗЬ СЕРАДЫ пытайцеся ў шапіках і ў прыватных распаўсюднікаў!**

## 7 КРАСАВІКА – Сусьветны дзень аховы здароўя

НА СТАР. 4-5

Платны доктар Айбаліт
У часнай клініцы сядзіт.
Прахадзі к яму лячыцца
Не бюджэтніца-ваўчыца,
А жучок-бізнэсмэн
Павялічыць свой член.
Прыхадзі багаты слон
У яйкі ставіць сылікон.
Вот такіх ён ісцаліт
Платны доктар Айбаліт!

## Людзі, якія нас зьдзівілі:

### Былы дэпутат ВС РБ А.Клімаў



Амністыя Клімава стала падзеяй нумар адзін для пікейных жылетаў Беларусі. Усе чакалі, што, адкінуўшыся з зоны, былы будаўнічы барон адразу будзе баптызаваны ў новыя верхаводы апазыцыі. На худы канец, стане крутым аўтарытэтам. З такой турэмнай біяграфіяй гэта раз плюнуць. Замест гэтага Андрэй пайшоў працаваць... сторажам у сваю былую фірму. Што сказаць? Як этычны дэмарш – безумоўна ўражвае. Па закону сп.Клімаў павінен аддаваць 20% заробку дзяржаве. Магчыма, таму ён спэцыяльна абраў найбольш нізкааплачваную працу, каб меней перападала ў казну.

### Прэзыдэнт Украіны Леанід Кучма



У мінулую нядзелю ва Ўкраіне адбыліся парлямэнцкія выбары. Партыя, якая падтрымлівала кіраўніка дзяржавы, «За Едину Україну» атрымала ўсяго 13%. У той жа час апазыцыйны блёк «Наша Україна» В.Юшчанка сьвяткавала посьпех – амаль 23%. Левая апазыцыя ўзяла пятую частку галасоў. Такім чынам, у парлямэнце дэпутатаў, якія падтрымліваюць гаранта дзяржавы, будзе ня болей 15-17%. Што гэта за лічба такая? Дзе гэта бачна, каб пры жывым прэзыдэнце, калі ён ня лох, натуральна, прапрэзыдэнцкая партыя набірала 15%? Ва ўсякай нармалевай краіне «ЗаЕдУ» б узяла ня меней 80%. Кучма яўна даў маху.

### Дэпутаты Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ



Пачаўшы сваю чарговую сэсію 2 красавіка, дэпутаты Палаты адразу ж пачалі высьвятляць сытуацыю, хто ж у парлямэце камандзір. Нечакана выявілася, што ў Палаце зьявілася «парлямэнцкая апазыцыя» ў асобе дэпутата Фралова, які заклікаў калег пазбавіць пасады сёньняшняга Старшыню ПП НС Папова.

**Падрабязнасьці на стар. 8**

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@ring.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 03.04.2002г., а 23.59. Тыраж 3750 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 1

## Навінкі ў тэстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. На якой мове пачала трансляцыі радыё Свабода?**
А) На чачэнскай
Б) На азбуцы Брайля
В) На трасянцы

**2. Каго чмыраць у расейскай Дзярждуме?**
А) Камуністаў
Б) Ананістаў
В) Фракцыю Адзінства

**3. Чыю маці пахавалі днямі ў Вялікабрытаніі?**
А) Тваю маць
Б) Каралеву-маці
В) Маці парадку

**4. Што ў Беларусі сьвяткавалі 2 красавіка?**
А) Сусьветны дзень барацьбы са сьмехам
Б) Дзень расейска-беларускага яднаньня
В) Гадавіну паўстаньня індыйскіх сіпаяў

**5. Самалётам беларускай кампаніі «Белавія» забаронена лятаць у Эўропу, бо**
А) Яны вельмі шумныя і сьмярдзючыя
Б) На іх працуюць нявётлівыя пачварныя сьцюардэсы
В) Яны лятаюць хутчэй за Боінгі і Канкорды

**6. Пад якім лёзунгам пройдзе акцыя апазыцыі 19 красавіка?**
А) Так жыць нельга!
Б) Свабоду Аджэле Дэвіс!
В) Хто ідзе за Клінскім!

**7. Хто зьняў фільм «Дажыць да каханьня», прэм'ера якога нядаўна адбылася?**
А) Квэнцін Таранціна
Б) Ю.Хашчавацкі
В) Ю.Азаронак

**8. Якую круглую дату сьвяткуе ў гэтым годзе спартыўная грамадзкасьць краіны?**
А) 20 гадоў перамогі менскага «Дынама» ў чэмпіянаце СССР па футболу
Б) Вызнаньне кёрлінгу алімпійскім відам спорту
В) 30 гадоў, як А.Лукашэнка пачаў гуляць у хакей

**9. Куды ўступілі былыя прэтэндэнты на пасаду прэзыдэнта М.Чыгір і П.Казлоўскі?**
А) У пэрыяд полавай сьпеласьці
Б) У хаўно
В) У Аб'яднаную Грамадзянскую Партыю

**10. Ува што ператвораная Беларуская Дзяржаўная Політэхнічная Акадэмія?**
А) У дзіцячы садок
Б) У Нацыянальны Тэхнічны Ўнівэрсытэт
В) У мэдрэсэ

**11. Якую прадукцыю неўзабаве будзе выпускаць барысаўскі завод «Аўтагідраўзмацняльнік»?**
А) Аўтагідраўзмацняльнікі
Б) Аўтаматычныя запальнічкі
В) Аўтамабілі BMW

**12) Які новы апэратар мабільнай тэлефоннай сувязі GSM пачне працу ў Беларусі напрыканцы красавіка?**
А) БПС
Б) МТС
В) BBC

**13) На які від грамадзкага транспарту ўзьняліся з 1 красавіка кошты на 50%?**
А) Аўтастоп
Б) Таксі
В) Прыгарадныя цягнікі

Правільныя адказы: 1-А, 2-Б, 3-В, 4-В, 5-В, 6-Б, 7-Б, 8-В, 9-В, 10-Б, 11-В, 12-Б, 13-В.

# Драўляныя мільёны

Распараджэньнем прэм'ер-міністра Г.Навіцкага ўведзены плян мерапрыемстваў па папаўненьні бюджэту краіны, які даў трэшчыну ўжо ў I квартале гэтага году. Плян прадугледжвае вельмі арыгінальныя спосабы здабычы дадатковых 380 мільярдаў рублёў, неабходных для цыраваньня бюджэтнай дзіркі: увядзеньне мараторыю, а затым і паступовае скасаваньне ільготаў насельніцтву, распаўсюджваньне сярод насельніцтва латэрэяў і інш. У гэты сьпіс нейкім чынам зацясаўся такі важны пункт папаўненьня казны, як павелічэньне




аб'ёмаў рэалізацыі драўніны. Ладна з ільготамі або лахатронамі – на нашых бедных людзях шмат не падымесься. Застаецца толькі прыкінуць, колькі ж запаведных лясоў трэба пусьціць пад пілу, каб назьбіраць гэтыя мільярды ●




## Забіваючы – ратуеш?

Нарэшце ў нас навучыліся зарабляць грошы на такіх нерэнтабэльных галінах беларускага АПК, як дзікія буйнарагатыя і парнакапытныя жывёлы. Цяпер нашы чацьвераногія лясныя браты ператварыліся ў даходны бізнэс. Напрыклад, толькі за мінулы год ад паляваньня замежных турыстаў прадпрыемствы Камлясгасу атрымалі 138 тысяч нямецкіх марак прыбытку. Гэта вам ня барскае паляваньне на ліс. Паляўнічыя з краін Эўропы здабывалі ласёў, дзікоў, глухароў і іншых прадстаўнікоў пакуль яшчэ багатай беларускай фаўны. Аднак самае цікавае, гэта куды накіроўваюцца выручаныя валютныя сродкі. Як завяраюць паважаныя прырода-ахоўчыя ведамствы, даляры-марачкі будуць накіраваныя на... ахову айчыннага жывёльнага сьвету! Сапраўды геніяльнае рашэньне, якое варта ўжываць і ў іншых галінах беларускай народнай гаспадаркі. Напрыклад, арганізаваць шоў па адстрэлу людзей сталага веку «Бягучы пэнсіянэр», а выручку пусьціць на пагашэньне запазычанасьцяў па пэнсіях ●

## Крытычны імпарт

Як паведамляе прэс-служба Прэзыдэнта, у бацькі на гэтым тыдні выдалася нялёгкая праца. Паміж будаўніцтвам крытага футбольнага манежа ў Менску і ўручэньнем вярыцельных грамат заморскім паслам, гаранта незалежнасьці асабліва клапоціць пытаньне забесьпячэньня насельніцтва таварамі крытычнага імпарту. Па словах кіраўніка, апошнім часам у Беларусі склалася ўстойлівая тэндэнцыя росту грашовых даходаў насельніцтва, а таму спажыўцам трэба даць магчымасьць набываць больш тавараў зь ліку крытычнага імпарту. Невядома, праўда, што хаваецца за таемнай фармулёўкай «крытычны імпарт» і што за тавары нам прапануецца набываць за павялічаны кошт. Відаць, зноў падвысяць кошты на пракладкі й тампоны ●




## АдукАцыя

### Гонар школы

Калі я быў яшчэ ружовашчокім акцябронкам і марыў уступіць у піянэры ў першую чаргу, у школах было прынята ганарыцца касманаўтамі, ляўрэатамі Нобэлеўскай прэміі па фізыцы, на худы канец, воінамі-інтэрнацыяналістамі. Дзякуй богу, тыя змрочныя часы мінулі. Зараз маладых бэйбусаў тыкаюць пысамі ў зусім іншыя дошкі гонару. Штотыднёвік *Минский курьер*, распавядаючы ў сваім апошнім нумары пра серабранскую школу № 102 пералічыў яе знакамітых выпускнікоў. Як выявілася, большасьці зь іх ня сьвеціць нічога добрага – яны трапяць у беларускія музычныя калектывы. Пазнаюць гаротнае жыцьцё бюджэтнікаў, зьведаюць што такое фінансаваньне па астаткавым прынцыпу. Затое, як падкрэсьліла аўтарка артыкулу, ёсьць і прыклады ўдалай кар'еры. Менская музычная школа № 102 па праву ганарыцца, што яе калісьці скончылі Алена Сьвірыдава й першая «расейская» зорка PLAYBOY'ю Марыя Тарасевіч. Як стала вядома Навінкам, пільную ўвагу да выпускніц гэтага году пачалі зьвяртаць PENTHOUSE і HUSTLER. Нарэшце міністру Брыгадзіну ня трэба ламаць сабе галаву, якія напрамкі зрабіць прыярытэтнымі ў новай канцэпцыі школьнай адукацыі.

**Лары Флінт,**
пэдагог

## Рэвалюцыя не за гарамі!

Сэнсацыйныя вынікі былі атрыманыя сацыялягічнай службай «Зеркало» падчас правядзеньня апытаньня: 13% менчукоў гатовыя браць удзел у веснавых акцыях пратэсту! Калі раскінуць гэтую лічбу на 2-мільённую сталіцу, то атрымліваецца наступнае: на вуліцы гатовыя выйсьці 260 (!) тысячаў менчукоў. Па тых жа дадзеных найбольш актыўныя менчукі – гэта мужчыны (яны складаюць 70%), моладзь ва ўзросьце ад 22 да 30 год. А цяпер уявіце сабе 260 тысячаў здаровых мужыкоў на вуліцах сталіцы – гэта ж рэальны кастрычнік рэжыму! На гэтым фоне блакітныя мары апазыцыйных дзеячоў пра сто-тысячную дэманстрацыю на Бангалоры выглядаюць як дзіцячыя трызьненьні на гаршчку.

Як паведамляе тое ж «Зеркало», менчукі аддаюць перавагу эканамічным патрабаваньням.

## АрмЕйскі магазІн

# Не хадзіў бы ты сьнок ва салдаты




Раз-не пдарас, затое лячэньне ад сіфу аплоцяць..

А табе, салага, не пашанцавала. Аддавай шапку ды гуляй

Таму, хто марыў пабачыць у войску замест сёньняшніх дахадзягаў крутых Рэмба, прыйдзецца расчаравацца. Як піша Во славу Родины на прыкладзе 195-ай часткі сувязі, на кантракты бяруць амаль адных жанчынаў. Вось што распавёў падпалкоўнік Гусеў: «Калі ўвосень я браў 8 хлопцаў служыць па кантракту, то ўвесну 5 зь іх звальняў за п'янства. З жанчынамі ўсё інакш. У арміі яны атрымліваюць больш чым у горадзе і сваім месцам даражаць>. Ужо зараз палова кантрактнікаў у паўночна-заходняй апэратыўнай акрузе - жанчыны. Хутка можа стацца, што місію абаронцы радзімы возьмуць на сябе выключна бабы.

Беларускае войска стаіць на парозе сэксульнай рэвалюцыі. Рэпарцёр газэты *Вечерний Минск* А.Сабалеўскі, прапанаваў каб салдаты, якія захварэлі на сыфіліс або на іншую вэнэрычную хваробу, самі аплочвалі лячэньне. Маўляў, трыпак можна паймаць толькі на гражданцы. «Ведалі казановы на што йшлі, няхай цяпер раскашэльваюцца», – гнеўна абураецца журналіст. Адзінае выйсьце для ваякаў – касіць пад гомікаў і даказваць урачам, што падчапілі букет не падчас звальненьня, а прама ў казарме ў выніку полавых кантактаў з таварышамі па службе. Таму рэкамэндуем тэрмінова завесьці бой-фрэнда для адмазкі.



Скарачэньне арміі, пра якое так доўга марылі функцыянэры ад апазыцыі, можа нэгатыўна паўплываць на маральны стан грамадзтва. Паводле словаў намесьніка начальніка арганізацыйна-мабілізацыйнай Управы Міністэрства абароны Беларусі палкоўніка Леаніда Мартынава, беларускае войска ня мае нястачы ў прызыўніках, а таму ня ўсе, каму, паводле закону, належыць служыць, змогуць выканаць свой сьвяты абавязак. Замест таго каб стаяць на варце краіны, лішак прызыўнікоў вымушаны будзе бадзяцца па вуліцах ды квасіць з гарла чарніла, а то й таго горш – забрыдуць на апазыцыйныя мітынгі.

# Камуністычнае у-шу




Як стварыць моладзевую камуністычную арганізацыю – б'юцца галавой аб сьценку бонзы Партыі Камуністаў Беларускай (калякінскай). З гэтай нагоды яны выдалі спэцыяльную тэарэтычную брашуру. Адказ на балючае пытаньне прапанаваў Анатоль Кузьняцоў, кандыдат філязафічных навук, дацэнт катэдры філязофіі Педуна. Ён лічыць, што супрацьлеглая сусьветнаму парадку можа супрацьстаяць арганізацыя, якая сярод іншага павіна займаца ўсходнімі адзінаборствамі. «Хіба Ленін або Маркс апраналіся як ніньдзя і прыгалі на батуце, задзіраючы ногі?» – вылупіць зенкі нейкі алдовы сталініст. – «Хіба ў «Капітале» нешта сказана пра каратэ-до-шатакан або барацьбу нанайскіх хлопчыкаў?» Кузьняцоў тлумачыць, што школы ўсходніх адзінаборстваў зьяўляюцца сродкам пазнаёміць моладзь з ідэямі ўсходняй філязофіі, якія яўна супярэчаць ідэалёгіі «сусьветнага парадку» і дапамогуць фізычнай і псыхалягічнай закалкае чалавека». Ўаў! А мы, дурныя, заўсёды думалі, што Ван Дам і Чак Норыс – папсовыя галівудзкія акторы, а яны на самой справе – фанатыкі камуністычнай ідэі! Так трымаць, таварышы Ван і Чак! Сансэю Кузьняцову прапануем далей разьвіваць сваю тэорыю анты-капіталізму ўсходніх школаў і распрацаваць нейкую асаблівую камуністычную школу, кшталту стылю «П'янога камуніста» або «Разьюшанага марксіста-ленінца». Пралетары ўсіх кранаў, кія! ●

**Брус Лі-нін**

# Лас-Вэгас па-польску

Беларускія чаўнакі, хто вазіў зь Берасьця вудку і цыгарэты, напэўна памятаюць прыпынак Бяла-Падляска на шляху да варшаўскага Стадыёну: расьпярдолены ў дупу вакзал, брудныя вуліцы і іншыя мілыя сэрцу лэндскейпы роднага Падляшша. Між тым хутка гэтыя епяні Трэцяй Рэчы Паспалітай ператворацца ў польскі Монтэ Карла.
Як трубіць польская прэса, у Бяла-Падлясцы хутка пачнуць будаваць гатэлі, казыно, алімпійскі гарадок, трэк «Формулы 1», стадыён на 60 000 гледачоў, аквапарк, мэдычны шпіталь і нават унівэрсытэт. Грошы на праект – каля 5 мільярдаў зялёных абяцае знайсьці турэцкі бізнэсмэн Вахап Тор, уласьнік фірмы Epit. Турак марыць зрабіць зь Бяла-Падляскі галоўны транзытны пункт паміж Азіяй і Эўропай. Злыя языкі кажуць, што на самой справе турку патрэбна ня слава бацькі польскага Лас-Вэгасу, а міжнародны аэрапорт, праз які можна будзе правозіць кантрабандай агромную колькасьць наркаты. Як бы ні было, жахары заходняй Беларусі маюць шанец перабіць турку ягоныя пляны і, дзякуючы міжнароднаму аэрапорту, заваліць увесь Захад нашай вудкай і цыгарэтамі ●






# Згубіць сваё імя...

Некалі ў савецкія часы партыйныя правадыры захапляліся тым, што дзясяткамі перайменьвалі гарады й вёскі СССР. Калі ж Савок рухнуў, пайшоў адваротны працэс, і старажытныя тапонімы вярталіся на свае месца.
Днямі стала вядома, што ў Баранавічах узьнікла грамадзкая ініцыятыва, якая ставіць на мэце перайменіць гэты старажытны горад. Прычына – сучасная назва, маўляў, немілагучна і абразьліва гучыць для мясцовых жыхароў. Ініцыятыўная група зьбіраецца нават дамагацца правядзеньня агульнагарадзкога рэфэрэндуму. «А як жа ж тады будуць называцца нашы старыя добрыя Бараны?» – спытае чытач. Аказваецца, тамтэйшыя інтэлектуалы прапануюць назваць горад «Чачот» у гонар ураджэнца гэтых мясьцінаў беларускага паэта-рамантыка Яна Чачота.
Калі такая фішка праканае – чакай бяды: хваля перайменаваньняў накрые краіну. Тут як піць даць заенчаць гамяльчане: «Гомель абразьліва гучыць для нас, натуралаў-гетэрасэксуалаў. Хочам перайменіцца ў гонар князя Паскевіча!». «А што, – завыюць жыхары Жлобіна. – Ня хочам быць больш жлабамі. Хочам быць горадам Плюшаваградам!» І пайшло-паехала.
Гэтак нядоўга й краіну перайменаваць. У Купалу, напрыклад. Так што, ня будзьце баранамі ●

*1 красавікА*

## Газэтчыкі жартавалі...

Напачатку першага тыдня красавіка легкаверныя грамадзяне былі не на жарт устрывожаныя апошнімі навінамі валютнага рынку. Як паведамляла газэта *Наша Свабода*, курс даляру рэзка падскочыў і перасягнуў планку ў 2000 з хвастом зайцоў. Некаторыя барыгі нават пасьпелі скарыстацца з гэтай нагоды і ўцюхалі даверлівым чытачам сотку-другую баксаў. А жыхары сталічнага мікрараёну Шабаны даведаліся, што каля дзясятка дамоў будуць зьнесеныя, а ўсіх перасяляць у хмарачос, які быццам бы плянуецца ўзьвесьці каля стадыёну Дынама. Гэтак рэдакцыя газэты бяліла сьпіну сваім чытачам на 1 красавіка. На наступны дзень каманда Жука прызналася, што толькі лапухі маглі верыць у хмарачосы і курс бакса за два касых. «Гэта ж было 1 красавіка. Ха-ха-ха!»
Аднак прыкол не прайшоў дарам для іншых газэтчыкаў. Закладнікам жарту Нашай Свабоды сталі іншыя выданьні, якія таксама выйшлі 1 красавіка. Напрыклад, чытачы саліднага штотыднёвіка *Белорусская Газета* чыталі публікацыі нумару *БГ* за 1.04.02 праз прызму першакрасавіцкага жарту. Тое, што мянты зьбівалі людзей, што Лукашэнка – дыктатар, што Клімаў выйшаў на свабоду і іншыя тэмы артыкулаў *БГ*, яны зразумелі як тонкі прыкол над чытачом. Дасюль чытаюць і ржуць, як на канцэрце Райкіна: «Лукашэнка давёў гаспадарку да ручкі!» – гэта ж сапраўды варта сьмеху!

# Гаворыць Скаруліс...



У нас у Бэльгіі, у лягеры для палітычных уцекачоў файна, але сумна. Учора прайграў у мандавошку чачэнцам апошнія цыгарэты. Добра хоць да нас прыехала Натальля Брэль з Рэчыцы, прывезла з Радзімы сьвежых газэтаў. Хоць пачытаў, чым сёньня дыхае краіна. Як я зразумеў па камэнтарах беларускіх гіенаў пяра, няма больш важнай тэмы, як прырода й вытокі злачыннасьці ў грамадзтве. Праваабаронца ў законе (эх, як мне не хапае ягонай характарыстыкі для атрыманьня палітычнага прытулку ў Бэльгіі!), калюмніст *Нашай Нівы* Алесь Бяляцкі прызнаўся, што не апошнюю ролю ў росьце крыміналу мае прапаганда гвалту галівудзкімі баевікамі. Ён нават ня можа даглядзець да канца насычаны крывавымі сцэнамі фільм «Адважнае сэрца», як ногі самі сабой вядуць яго ў шэрагі адмарозкаў.




Карацей, спарахнелае цела героя Шатляндыі Ўільяма Ўоласа штогод штурхае Алеся Бяляцкага парушаць артыкулы КоАП РБ. Што рабіць з такімі сынэмафіламі, як Бяляцкі? Адказ ведае галоўны рэдактар *Саўбелкі* Павал Якубовіч. У сваім камэнтары ад 29 сакавіка, таксама прысьвечаным праблеме злачыннасьці, ён прыгадвае справу тэхаскай журналісткі Ванэсы Лэгіт. Гэтая лярва проста ў палацы юстыцыі сунула судзьдзю пад нос дулю. За гэты жэст судзьдзя паслаў Ванэсу на паўгады на хімію. Якубовіч аж затырчэў ад амэрыканскага «ўэй оф лайф» (нізкапаклонстcве перад Захадам! Куды толькі глядзіць ягоны заснавальнік Адміністрацыя Прэзыдэнта?).




Магчыма, Пал Ізотыч і сапраўды мае рацыю (а можа, на'т і сотавы). Галоўнае – жорсткае й непазьбежнае пакараньне. Бо, як піша ў *БДГ* Ірына Халіп (бляндынка ў натуры), чатыры гады на кічы такі зрабілі з бандзюгана Клімава нармальнага чалавека.




Але ня ўсё так проста. Закон у нас, што дышла. Гэтай банальшчынай забіў сваю калёнку ў *Белорусской газете* Аляксандар Грыцанаў.

Особенности правовой ситуации в посткоммунистических странах в том, что законы писались и пишутся не самые плохие. Исполняют же их люди, которые ввиду сложившейся ситуации привыкли быть не столько законниками, сколько добросовестными службистами...

Карацей, зусім мне задурылі мазгі. Турма то дапамагае, то не дапамагае. Дык як змагацца з крыміналам? Усё расставіла па сваіх месцах яшчэ адна бляндынка. Танюша Сулімава, дыджэіха Радыё Рокс, што халтурыць на *СБ*, вырашыла падацца ў прававерныя хрысьціянкі. Відавочна, сэкта трансцэндэнтальнай мэдытацыі – гэта ўжо ня крута. Зараз крута посьціцца. Праблема адна – Таня вельмі любіць «нежныя ёгурты» і каб пераадолець ёгуртавую ломку прыдумвае для сябе розныя рэзоны. Напрыклад, прыгадвае, што на Гаваях пасьля сьмерці караля ўсё племя адмаўлялася ад ежы. Гэта дазваляе ёй вывесьці мараль.




Дык вось дзе сабака зарыта! Чым меней будзем есьці, тым меней будзе ў грамадзтве крыміналу! Нарэшце са спакойнай душой я магу адкласьці газэты. Тым больш ужо паклікалі на абед. Трэба бегчы, а то зноў гэныя бангладэшцы сажруць мае сьвіныя сасіскі. А яшчэ кажуць: мусульмане...

**Арсень Скаруліс,**
былы адвакат

# Айбаліт

## (Сучасная беларуская

Прыйшла да Айбаліта ліса:
«Міня «Сьпідам» заразіла аса!»
І прыйшоў беспрацоўны барбос:
«Даканаў мяне тубэркулёз!»







І прыбегла зайчыха-маці
і зараўла: «Тваю маці!
Мой зайка-балбес!
Трапіў пад мэрсэдэс!
Ён бег праз дарожку,
і яму перарэзала ножкі,
і цяпер ён бальной і храмой,
Маленькі заінька мой!»
І сказаў Айбаліт:
«Без пі*ды! Падавай-ка яго сюды!
Я прыш'ю яму ножку адную,
Толькі ты заплаці за другую,
і ён зноў пабяжыць праз дарожку.
А за гэта башляць трэба трошку».
Прынясьлі к яму зайку,
Такова бальнова, храмова,
і доктар прышыў адну ножку,
і заінька прыгае знова.




А зь ім і зайчыха-маць
Тожа пашла танцаваць.
І сьмяёцца яна і крычыт:
«Ну, спасіба табе, Айбаліт!»
Удруг откуда-та шакал
На кабыле прыскакал:
«Вот вам тэлеграма
Ад хойніквыканкама!»
«Прыяжджайце, доктар,
У Хойнікі скарэй
И спасіце, доктар,
Нашых малышэй!»
«Что такое? Неўжэлі
Вашы дзеці забалелі?»




## Айбаліт, тубік і СНІД

Эпідэміі СНІДУ і тубэркулёзу валяць беларусаў як тыя расейскія кантрактнікі чачэнаў. Краіна як можа рубіцца супраць мору, сілы яе на зыходзе... І тут на дапамогу РБ ляціць «міжнародная грамадзкасьць» у выглядзе Сусьветнага Банку. Спэцыяльна для нас ягоныя карыфеі распрацавалі праграму дапамогі «Тубэркулёз/СНІД», дэкляраваныя мэты якой: кантроль зараспаўсюджаньнем сьмерцяносных бацылаў (з акцэнтам на прафіляктыку і тэрапію на раньняй стадыі) і дапамога ўраду ў «разьвіцьці сыстэмы аховы здароўя, паляпшэньня якасьці і фінансавай эфэктыўнасьці лячэньня». Карацей кажучы, нам абяцаюць крэдыт аж у 45 млн. зялёных пад 6% гадавых. Як тут усе ўзрадваліся, як заплясалі, а ўся прэса (як дзяржаўная, гэтак і «апазыцыйная») ад удзячнасьці аж замлела.

Ня хочацца псаваць сьвята, але манера бескарысьлівай дапамогі СБ даволі арыгінальная. Нагадаем, што з 1997 году «хэлп» з боку Банку быў жорстка абумоўлены лібэралізацыяй абменнага курсу (умова выкананая ў 2000 г.), а за тым і іншымі «сьціплымі, але значнымі мерамі» (аслабленьне кантролю за коштамі, жорсткія бюджэтныя абмежаваньні і г.д. з пачатку 2001 г. знаходзяцца ў стадыі выкананьня). Парадокс у тым, што менавіта падобныя «структурныя рэформы» і зьяўляюцца адным з фактараў пагаршэньня сацыяльнай, а значыць, санітарнай і эпідэміялягічнай сытуацыі.

Другі фактар у прынцыпах дапамогі Банка. СНІД – амаль дэтэктыўны прыклад. Па-першае, перад доўгатэрміновымі праграмамі лячэньня хворых праект крэдытаваньня аддае перавагу закупцы прэзэрватываў і шпрыцоў для «групаў рызыкі», што пры абяцаных бюджэтных скарачэньнях будзе азначаць хуткае выміраньне «абрэчаных» сьніданосцаў (вельмі карыснае для статыстыкі). Па-другое, на сёньня эфэктыўная трытэрапія аднаго хворага каштуе каля 1000 даляраў на месяц, бо патрабуе закупкі дарагіх імпартных прэпаратаў (напрыклад, AZT). Між тым, гэткі кошт лячэньня, мякка кажучы, завышаны, бо заснаваны на дыктаце заходніх big pharmas, якія валодаюць эксклюзіўнымі правамі на рэалізацыю азначаных мэдыкамэнтаў і атрымоўваюць ад гэтага звышпрыбыткі. Беларусам можна было б закупаць аналягічныя таблеткі, напрыклад, у індыйскай кампаніі Cipla, якая прапануе іх у 35 разоў таньней (!), але відавочна, што Сусьветны Банк хучэй блякуе ўсялякую дапамогу краіне (як гэта ён звычайна робіць у Трэцім Сьвеце), чым дазволіць парушыць «міжнароднае гандлёвае права». Маўляў, атрымайце вашы гандоны і не забудзьцеся сказаць дзядзям «дзякуй».

## Айбаліт і парамэдыцына

Немінучыя бюджэтныя скарачэньні і перавод на «30%-ную самаакупальнасьць» не пахераць айчынную мэдыцыну, а прымусяць дактароў яшчэ болей адаптавацца да імпэратываў рынку, дзе сёньня найлепш адчувае сябе парамэдычны сэктар (для прыкладу, у 2001 годзе, незалежны мэдычны часопіс *Prescrire* правёў тэставаньне 223 новых мэдыкамэнтаў ад буйных мэдычных карпарацыяў і аказалася, што толькі... 9 зь іх даюць нейкі тэрапэўтычны эфэкт). Экстракты бразыльскіх травак, вычурныя мэханізмы культу «біяэнэргастымулятараў», гамэапатыя, гербалайф, кадзіраваньне, паглынальнікі тлушчу, пінкготукола і іншыя «цуда-сродкі» ўжо сёньня сталі ня менш цудоўным сродкам шабашкі нашых дзяржаўных мэдыкаў. Каб кампэнсаваць свае скудныя заробкі, апошнія заключаюць кантракты з распаўсюднікамі разнастайных парамэдычных прэпаратаў і, карыстаючыся недасьведчанасьцю пацыентаў, навязваюць лапухам «чароўныя эліксыры» за даволі кругленькія сумы (у сярэднім, ад 10 да 25$). Цікава, што пад «кіслотнай» абалонкай і навукападобнымі назвамі даражэнных магічных парашкоў часта хаваюцца традыцыйныя рэцэпты народаў Трэцяга Сьвету, якія здаўна вядомыя і для тамтэйшых жыхароў да апошняга часу ня мелі аніякай грашовай (а часам, нават, і мэдычнай) вартасьці. На іх хітрадупыя кампаніі шпарка рэгіструюць патэнты як на сваё «навуковае вынаходніцтва», дзякуючы актыўнаму маркетынгу (80% працэнтаў бюджэту заходніх фармацэўтычных карпарацыяў складае рэкляма і пі-ар) выдаючы банальныя афрыканскія карашкі за супэрэфэктыўныя лекі. У бліжэйшай будучыні якая-небудзь Pfizer заграбастае патэнт і на нашы народныя сродкі. Напрыклад, высушыць, разьмяльчыць і разьмяркуе па фірмовых капсулах старыя трусьнякі, праз якія беларускія бабкі-знахаркі сёньня прапускаюць хворых на рожу. «Я вам прапаную новы швайцарскі прэпарат pantalonis balsamiferi. Усяго за 14,70$ пакунак. Не ўпусьціце свой шанец», – скажа заўтра які-небудзь дэрматоляг свайму пацыенту. Той купіць.

Сёлетні Дзень Здароўя сьвяткуецца беларусамі ў асаблівым кантэксьце. Наказаная Бацькам эканамічная лібэралізацыя здолела-такі разварушыць замшэлую дрыгву айчыннага мэдычнага забесьпячэньня. На скрыжаваньні новай дзяржаўнай ідэалёгіі (Стратэгія эканамічнага разьвіцьця РБ: дыктатура, інтэграцыя, прыватызацыя) і эканамічных праблемаў (бюджэтны дэфіцыт і інфляцыя) зьявілася зьнічка, зь якой мусіць разгарэцца полымя рэвалюцыйных трансфармацыяў сыстэмы лячэньня і аздараўленьня нацыі. Па запатэнтаваных нэалібэральных рэцэптурах, лепшая таблетка ад інфляцыі – памяншэньне сацыяльных артыкулаў бюджэту. Зыходзячы з пастулату адсутнасьці ў нашых шыротах бубоннай чумы, сібірскай язвы і ліхаманкі Дэнге, беларускі палітычны «топ-мэнэджмэнт» прыняў рашэньне скарачаць дзяржаўныя выдаткі на ахову здароўя (*Белорусский Рынок*, №13/2002) – сфэру, найменш патрэбную для крэпышоў-беларусаў. Загартаваныя радыёнуклеідамі, падмацаваныя беднасьцю і алькагалізмам, натрэніраваныя абортамі, надрочаныя таннымі цыгарэтамі і шыркай, начшадкі Вітаўта і Купалы ніколі не адчувалі сябе дужэй, чым сёньня. Да таго ж, магчымасьць атрыманьня крэдытаў ад міжнародных фінансавых інстытутаў настолькі раздражняе сьлінавыдзяляльную залозу палітычнага пантэону, што вымушае Лукашэнку робка ісьці на ўсё больш сьмелыя сацыяльныя экспэрымэнты.

Першапачатковым інструмэнтам будучага абразаньня выдаткаў становіцца вядомы прэзыдэнцкі запавет аб неабходнасьці пашырэньня сфэры платных паслугаў у дзяржаўных мэдыцынскіх установах. Апошнія павінны адгэтуль 30% сваіх выдаткаў пакрываць камэрцыйнымі паслугамі. Афіцыйная мэта – праз пузатых «платнікаў» зарабляць пазабюджэтныя бабкі на «дармовае» лячэньне нерэнтабэльнага насельніцтва. Вынікам такой геніяльнай стратэгіі ёсьць перавод на цалкам платную аснову некаторых банальных працэдур (напр., здачы кала) і заканамернае перацяканьне ўсяго больш-менш якаснага (паслугаў, пэрсаналу, тэхнікі, матэрыялаў, лекаў) ад усё болей дэкаратыўнай «бясплатнай» мэдыцыны да камэрцыйных кабінэтаў. Атрымліваецца мудрагелістая формула: падаткаплацельшчык аплочвае лякарні і паліклінікі, якія ў імя «гаспадарчага разьліку» накіроўваюць бюджэтныя сродкі на эўрарамонт кабінэтаў па выдаленьні папіломаў ды прышчоў і заказ у Сан-Францыска ультрасучаснай апаратуры для адсосу цэлюлітнага тлушчу. Атрыманыя даходы, у сваю чаргу, дазваляюць дзяржаве меней адсьцёгваць на ўсё болей «самаакупальную» мэдыцыну, а падаткаплацельшыку – ганарыцца тым, што ягоныя кроўныя ідуць не на якуюсь там закупку вакцынаў, а на сьвятую вайну з інфляцыяй і бюджэтным дэфіцытам.

Другім мэтадам бюджэтнай эканоміі зьяўляецца абяцанае міністрам аховы здароўя памяншэньне магчымасьцяў і часу знаходжаньня пацыента ў стацыянары. Такім чынам плянуецца ліквідаваць існуючыя чэргі на бальнічныя койкі: як і ў часы далёкай мінуўшчыны, нашы здыхлікі змогуць законна паміраць дома.

Нарэшце, трэцім інструмэнтам паляпшэньня айчыннай мэдыцыны павінна стаць замена дзяржаўнай бюджэтнай сыстэмы аховы здароўя на мэханізм мэдыцынскага страхаваньня. Апошняе можа прымаць розныя формы, ад абавязковага сацыяльнага (унёскі прадпрыемстваў і саміх работнікаў) да дабраахвотнага прыватнага. Як паказвае расейскі досьвед, эфэктыўная страхоўка апошняга тыпу будзе каштаваць каля паўтысячы барыкаў за год на рыла, што аўтаматычна вызваляе ад гэткага мэдыцынскага забесьпячэньня больш за 90 працэнтаў грамадзян. У абодвух выпадках, як і пры «пашырэньні платных паслугаў» пад камуфляжам «сацыяльных» намераў ціхарыцца жаданьне ўраду зьняць зь сябе ярмо адказнасьці за здароўе плебеяў, якія, да таго ж, усё больш старэюць, хірэюць ды любяць паваляцца на бальнічнай койцы.

Нягледзячы на зьнешнюю арыгінальнасьць, у рэформы аховы здароўя беларускага разьліву ёсьць шматлікія прататыпы. Па інфармацыі Сусьветнай арганізацыі здароўя (WHO), з 90-х гадоў падобны шлях абрала большасьць постсацыялістычных краінаў Усходняй

# '2002

## народная казка)

«Да-да-да! У іх экзэма,
сьвінка, рак і трэпанэма,
Прастаціт, энцэфаліт,
Цыроз печані і СНІД!
Прыхадзіце жэ скарэй,
Добры доктар Айбаліт!»
«Ладна, ладна, пабягу,
Ёсьць страхоўка – памагу.
Толькі гдзе жа вы жывёце?
На гары ілі ў балоце?»
«Мы жывём ля Асіповіч,
Смалявіч і Радашковіч,
На шырокай Ленін-стрыт,
Дзе гуляе гепаціт».
А ў Хойніках,
А ў Хойніках,
На беразе Дняпра,
Сядзяць і горка хныкаюць
Два маленькіх бабра.
І гаварат сярдзіта:
«Шо ж нету Айбаліта?»










А радам бегемоцікаў
Ламае без наркоцікаў:
У іх, у бегемоцікаў,
Жывоцікі балят.
Ані ляжат і брэдзят:
«Ну што жа ён ня едзет,
Ну что же ён ня едзет,
Доктар Айболіт?»
І бяжыт Айбаліт к бабрам,
І капает усім па сто грам,
І ўсім па парадку
Устаўляе пракладку,
І дзелает ім эўтаназію!
І к лысаватым
Бяжыт ён яжатам,
І к бедным гарбатым
Мутантам-зубратам,
І рэклямуе: «Мэзім –
для жэлудка незаменім!».

Дзесяць хвілін Айбаліт
Ня ест, ня п'ёт і ня сьпіт,
І адну ліш фразу цьвярдзіт:
«Нікога ня лечым ф крэдзіт!»
Дзесяць хвілін падрад
Ён лечыт няшчасных зьвярат
І дзелает ім эўтаназію.
Вось і здохлі ўсе яны. Лімпапо!
Кракадзілы і сланы. Лімпапо!
Сталі ныркі прадавацца. Лімпапо!
Мэдыцына акупацца. Лімпапо!

І бюджэт без дэфіцыту
На здароўе ўсім зьвярам
СЛАВА, СЛАВА АЙБАЛІТУ!
СЛАВА ПЛАТНЫМ ДАКТАРАМ!




Эўропы. З адначасова катастрафічнымі вынікамі для здароўя людзкой біямасы (скарачэньне працягласьці жыцьця і рост эпідэміяў) і, што галоўнае, экстраардынарным павышэньнем эканамічнай эфэктыўнасьці сыстэмы. Паўсюль фундамэнтальным прынцыпам рэформаў стала прымяненьне рынкавых заклінаньняў (рэнтабэльнасьць, канкурэнцыя, структурныя рэформы). Паводле той жа WHO, заахвочваньне прадпрымальніцкай ініцыятывы ўрачоў у кантэксьце эканоміі дзяржаўных рэсурсаў прывялі да росту хабарніцтва і шарлатанства. Разьвіцьцё прыватызацыі і коштавай лібэралізацыі мела вынікам узьлёт цэнаў на мэдыкамэнты і дыктат замежных фармацэўтычных карпарацыяў, а адсюль недахоп вакцынаў. Затое рынкавыя мэханізмы запрацавалі з хуткасьцю электроннай пошты. Увогуле, міністру аховы здароўя Ігару Зелянкевічу трэба быць больш пасьлядоўным у адстойваньні прынцыпаў рэформы. Калі ўжо ўзяўся праводзіць рынкавую мэліярацыю дзяржаўнай мэдыцыны, дык не залупайся наконт нейкай там даступнасьці і гуманнасьці. Зарабляць грошы, значыць зарабляць, альбо слова Бацькі табе не закон? Калі ўлічваць плацёжаздольнасьць і стан здароўя асноўнай часткі насельніцтва, рэнтабэльнай беларускую мэдыцыну можна зрабіць толькі пры дапамозе масавага прымяненьня эўтаназіі і стварэньня дзяржаўных донарскіх пунктаў па скупцы ўнутраных органаў. Будзьце здаровы! ●



## Айбаліт і эўтаназія

Будучыню мэдыцыны немагчыма ўявіць без эўтаназіі. Ідэя ўзаконіць забойства чалавека дзеля яго ж асабістага і грамадзкага дабрабыту даўно вісела ў паветры. У 1939 годзе фюрэр усіх арыйцаў падпісаў пастанову «Аб зьнішчэньні нявартасных да жыцьця». Адпаведна закону нямецкія пэдыятары былі павінны рэгістраваць і зьнішчаць усіх малакасосаў з сымптомам фізычнай дэфармацыі арганізму, або з запозьненым мэнтальным разьвіцьцём. Фактычна, эўтаназія практыкавалася напярэдадні вайны ў Швэцыі і ЗША. У 1999 годзе эўтаназія атрымала легальны статус у амэрыканскім штаце Арэгон. У 2000 дазвол на дапамогу ў суіцыдзе даў парлямэнт Нідэрляндаў. Напачатку XXI стагодзьдзя ідэя эўтаназіі гучыць інакш: калі перасправабаныя ўсе мэдычныя сродкі, калі пацыент амаль сканаў ад болю, калі асоба ня здольная на нейкую працоўную дзейнасьць, грамадзтва можа дапамагчы хвораму зь ягонага дазволу (або санкцыі родзічаў) пайсьці з жыцьця. Нельга ня вызнаць, што ў канкрэтных выпадках эўтаназія можа згуляць станоўчую ролю. Таму сёньня законапраекты аб увядзеньні эўтаназіі дыскутуюцца паўсюль, нават у нас. Прыхільнікі эўтаназіі кажуць пра абсалютнае права індывіда на распараджэньне асабістым целам і лёсам. Часткова яны маюць рацыю. Але на практыцы імпарт эўтаназіі ў бедныя краіны створыць легальную базу для забойства непрацаздольных. Каб давесьці, што хвораму акрамя шпрыца з цыяністым каліем нічога не дапаможа, трэба перасправабаваць на ім усе існуючыя мэдычныя сродкі. Аднак у нас ня тлустая Галяндыя. Наш бюджэт надарве пупок, калі для кожнага сьніданосца будзе набываць за валюту дарагія таблеткі. Атрымліваецца, што трэба распрацаваць лякальныя крытэры стану арганізму, пры якіх чалавека ўжо няма сэнсу лячыць. У прынцыпе, калі жадае, ён можа застацца жыць (мы ж вызнаем права на жыцьцё), аднак на койка-месца можа не разьлічваць. Як раз гэтак паступіў Сусьветны Банк у дачыненьні хворых на СНІД у Афрыцы: паколькі лячыць іх дорага, то й не фіг іх лячыць. Гэта дазволіла разгрузіць шпіталі ад пэнсіянэраў і зьберагчы грошы ў бюджэце. Дарэчы, у беларускім варыянце сэканомленыя сродкі можна выкарыстаць на больш карысныя справы, кшталту арганізацыі хакейнага турніру.

## Айбаліт і трансплянтацыя

Хто там вякае, што наступствам лібэральных рэформаў наша мэдыцына гікнецца? Насамрэч нашы Авіцэны яшчэ дадуць усім прас*аціца. Прынамсі ў галіне трансплянтацыі ўнутраных органаў. На Захадзе апэрацыі па трансплянтацыі нырак, лёгкіх, пячонкі робяцца ўсё ў большых маштабах. Пры сучасным разьвіцьці тэхнікі праводзіць такія апэрацыі настолькі проста, што іх ужо практыкуюць у раёнках. Адзіны запор на шляху разьвіцьця трансплянтацыйнай мэдыцыны – дэфіцыт органаў для перасадкі. У 1999 годзе ў ЗША ў чарзе на органы стаялі 60 тыс. асобаў. Чакаць прыходзіцца некалькі гадоў, пакуль донар-родзіч не аджыдзіць кавалак свайго цела, або ў морг не прывязуць сьвежака-нябожчыка, якому тыя ж лёгкія патрэбныя цяпер як карове масьленіца. Відавочна, што багатыя янкі чакаць міласьці ад пляменьнікаў і паталягаанатамаў не жадаюць. Яны гатовыя башляць за орган вялікія грошы. Калі ёсьць попыт, ёсьць і прапановы. За апошнія 30 гадоў узьнік сусьветны чорны рынак гандлю ўнутранымі органамі. Як правіла асноўнымі пастаўшчыкамі сыравіны зьяўляюцца бедныя грамадзяне краінаў Трэцяга Сьвету. Напрыклад, у некаторых штатах Індыі, напрыклад Тамілнад, ёсьць вёскі, дзе кожны дзясяты ўжо штурхануў налева сваю пячонку. Сярэдні кошт органу цягне на 5 штук баксаў. Вельмі разьвіты рынак органаў у Кітаі і Бразыліі. У Кітаі камэрцыйныя пасярэднікі працуюць з начальнікамі турмаў. Напрыклад, вам патрэбныя лёгкія чалавека, што ня курыць? Ноў проблем. Турэмшчык абыходзіць камэры, знаходзіць патрэбную кандыдатуру і мочыць яго пад выглядам перадухіленьня спробы пабегу. Лёгкія выражуць у моргу, і даставяць вам па адрасу. Сэрвіс як у МакДональдсе. У Бразыліі донарства квітнее за кошт жыхароў бедных кварталаў, г.зв. фавэлаў. Паколькі гандаль органамі забаронены, купля-продаж абстаўляецца як падарунак. Ты яму дарыш вока, а ён табе – новы тостэр. Таксама распаўсюджаная практыка, калі трапіўшых у аварыю небаракаў, адразу адпраўляюць у морг. Там ім, яшчэ цёпленькім, хуценька робяць ускрыцьцё і атрымліваюць цэлы маразільнік яшчэ сьвежых органаў. Як сьведчыць нядаўні скандал у суседняй Польшчы, дзе эскулапы забівалі лахоў дзеля тых жа органаў, нам славянам нішто чалавечае не чужое. Беларускую мэдыцыну чакае бліскучая будучыня на сусьветным рынку пячонкі і нырак.

# ЭКСГІБІЦЫЯНІСТЫ

## Пачатак новага сэзону

У мясцовых аматараў сэкс-экспа пачаўся новы вытворчы сэзон. Спэцыяльны рэпартаж.

Як прыемна зноў адчуць на твары сонечнае цяпло вясны-2002. Прыемна пачуць ранішнія шлюбныя песьні вераб'ёў ды варон, ад якіх займае дух і хочацца кахаць усіх і ўсё. Ізноў на сваё цяжкае, але цікавае хобі выходзяць менскія эксгібіцыяністы... Раней *Навінкі* (№11(49) за 2001) ужо распавядалі пра вычварэнца, які раз-пораз пужае студэнтаў-нацыяналістаў ля Архіфаку БДПА. Але палітэх на самой справе – самая пасіўная ў палітычным сэнсе ВНУ сталіцы. Значна заўважней у гэтым сэнсе БДУ і іншыя унівэрсытэты сталіцы. Там палітычных адмарозкаў хоць гаць гаці, ну і, зразумелая рэч, эксгібіцыяністы працуюць там актыўней. Ёсьць ахвяры.




Першая наша гераіня, якая вырашыла не называць свайго імя, распавяла наступнае. Аднойчы яна йшла па калідоры 2-га будынку БДПУ імя Танка. Тонка цокалі яе каблукі, і гэты гук раздаваўся далёка ў бакі. Калі бедная дзяўчынка, нічога не падазраючы, падышла да павароту на лесьвіцу, яна ўбачыла Яго. Мужчына, апрануты ў сынтэтычную пухавую куртку, без капелюша, стаяў перад ёй і банальна ананіраваў. У яго быў тыповы славянскі твар густа-чырвонага колеру. Ён загадзя пачуў набліжэньне ахвяры – гук выдаваў яе з галавой. І цяпер той адчуваў асалоду, якую ніколі не зразумець нам, простым сьмяротным.

Таксама добра вядомы вычварэнец, што займаецца сваей бруднай справай ля інтэрнату МДЛУ (па-просту ін'яз). Упершыню яго бачылі там недзе ўвесну 2000-га году: інтэлігентнага выгляду мужчына каля сарака год, з кароткай стрыжкай. Вопратка - клясычнае для іх паліто і кепка (цікавая рэч: нашэньне капелюша не характэрнае для пасьлядоўнікаў гэтага занятку). Сьведкі распавядаюць, што пад паліто ён апрануты ў свэтэр і штаны, на нагах – якасныя чаравікі. Зьяўляецца даволі часта, да некалькі разоў у тыдзень. Ён падыходзіць да інтэрнату праз двары, чакае ахвяру за вуглом, а дачакаўшыся – выходзіць і проста пачынае распранацца: разгортвае паліто, пачынае здымаць штаны. Што ў яго далей – невядома, бо звычайна гэта сканчаецца тым, што няшчасная ахвяра абкладае агрэсара жудаснымі словамі і йдзе па сваіх справах.

Сярод зацікаўленага кантынгенту (чытай: жаночай часткі) інтэрнату за эксгібіцыяністам замацавалася банальнае паганяла «Драчун». Працуе звычайна ў цёмны час сутак. А дванаццатай гадзіне, калі інтэрнат зачыняецца, ён пераходзіць пад вокны, кідаючыся сьмецьцем і каменьчыкамі па тых, дзе бачыць сьвятло, каб прыцягнуць увагу. Насельніцтва інтэрнату ставіцца да апісаннага фэномэну неадназначна: 20%, якія складаюць хлопцы, увогуле кладуць на яго свой; астатнія 80 ставяцца да яго як да нейкай, часам нязручнай (некаторыя ня любяць выходзіць з будынку ўначы), але часьцей забаўляльнай дробязі.

Ёсьць і іншыя сыгналы пра канкурэнтаў Драчуна ў той жа мясцовасьці. Некаторыя студэнткі сьведчаць, што да іх зьвярталіся з прапановай «паглядзець на гэта» з салону даволі дарагога аўтамабіля. Той самы гэта чалавек ці не – невядома, але цяпер супрацоўніцтва з вычварэнцамі выглядае даволі прыбытковай справай.

Новыя людзі, новыя месцы, але нязьменным застаецца адно: гэткія анамаліі ўзьнікаюць там, дзе тусуецца палітычна заклапочаная моладзь. І два апошнія прыклады яшчэ раз даказваюць: супраць апазыцыі працуюць творчыя і ініцыятыўныя людзі ●

**Нестар Міхненка,**
вуаерыст

## ДОшка аб Яваў

Пазнаёмлюся зь цікавым хлопцам для сумеснага правядзеньня часу.
П/с 23, 220006 г.Менск, Ліза.

Калі жадаеце разбагацець, дашліце 1000 руб. і пустую капэрту. Гарантыя 100%!
П/с 34, 220030 Менск.

Віншуем сп.Рымашэўскага зь неўступленьнем у Аб'яднаную Грамадзянскую партыю. Гэтак трымаць! Сябры АГП.

Каханая Алеся Р.! Я згубіў твой тэлефон! Чакаю пад помнікам Дзяржынскаму па панядзелках з 12:00 да 23:00. Васіль

Маладая сям'я з двух чалавек (супрацоўнікі газэты *Навінкі*) здыме дом у прыватным сэктары на працяглы тэрмін.
Тэл. 220-83-77, Насьця.

### Умовы разьмяшчэньня абвесткі ў газэце

Пералічыце 400 рублёў праз пошту пераводам на разьліковы рахунак рэдакцыі: рэдакцыя газэты «Навінкі», р/р 3012201400013, Купалаўскае аддзяленьне ОАО «БелІнвестБанк», г.Менск, код 481, УНН 101554379. На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запішыце дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадайце сказ: «За рэклямныя паслугі».

## Дэвіяцыі творчасьці

Мы ўжо прызвычаіліся, што кніжкі творчага аб'яднаньня «Другі фронт мастацтваў» якія выпускаюцца пад лягатыпам, што нагадвае шлюбныя гульні крабаў абяцаюць нешта сьмешнае ды прыкольнае.

Вычварэньні ў літаратуры сталі ўжо зьявай натуральнай. Таму не зьдзіўляюць розныя артаграфічныя выбрыкі накшталт «зказаў» ці «зтаміўся», а зьдзіўляе што робіць у гэтым праекце карэктар. Любое спалучэньне графічных знакаў у такой кніжцы будзе выглядаць як аўтарская арт'аграфія. Спробы падражніць чытачоў нейкімі нетрадыцыйнымі сэксуаль-нымі дзівацтвамі таксама не выклікаюць вялікага ўжо абурэньня. Тым больш, як бачым, арыентацыя ў паэты хутчэй адназначная, чым супярэчная:

*У вежы ў сталым Камянцы*
*Царыў Гамора і Садом*
*Аб гэтым навіна такая*
*Да князя паляцела ў дом*
*Калі ж яму ўсё разказалі*
*Дык разлаваўся строгі князь*
*Відэлец зашпульнуў на сьцену*
*Зказаў ён жорстка:*
*«Во дзе мразь!»*

Хаця Ралан Барт калісьці («Сад, Фур'е, Лаёла») паспрабаваў прывязаць граматычныя прыхільнасьці айца ўтапічнага сацыялізму Шарля Фур'е да зьмены родавых канчаткаў назоўнікаў зьяго́ным латэнтным трансвэстызмам, але гэта перабольшаньне.




Аформленая кніжка таксама незвычайна — нанакольні дазваляюць сьціплыя сродкі. Слупок з аднаго верша абрываецца, пасьля працягваецца праз тры старонкі. Аматары сканвордаў і тыя, хто не прывык сумаваць у падарожжы з гораду на свой дачны ўчастак, будуць безумоўна ў захапленьні. А чаго вартыя вычварэнскія ілюстрацыі граматычных сэнсаў у вершаванках накшталт:

*Як сьвязень выцьвічоўя*
*Што крывічанскі дзвон*
*Бы граняслоўяў скімнаў*
*Хядногіх цынамон*

– аўтар проста абчытаўся «Алісы ў Краіне цудаў» Кэрала. Кніга рэкамэндуецца ня толькі навучэнцам малодшых курсаў беларускага аддзяленьня філялягічных факультэтаў, але і самым шырокім колам чытачоў ●

**Іван Залатароў**

## МУзыка

### Афанасьева ў Капылі

У горадзе Капылі (15 тысячаў жыхароў, адзін ДК з кінаканцэртнай заляй на 300 месцаў) адмянілі канцэрт беларускай эстраднай зоркі Іны Афанасьевай: было прададзена менш за 100 білетаў коштам па 4 000 беларускіх рублёў. Зазвычай на правінцыі мясцовыя джэнтльмэны разьмяркоўваюць свой бюджэт так, каб на культурную праграму (кіно, канцэрт і дыскатэка ў клюбе) выкраіць тое, што застанецца пасьля выкананьня абавязковай праграмы (выпівон, закусон, запівон). Відовочна, што крытэрам культурнасьці месца зьяўляецца рэгулярнасьць выплаты зарплаты патэнцыйным спажыўцам культурнага прадукту – салігорскім шахцёрам, ці, да прыкладу, наваполацкім хімікам, пофіг куды ісьці пасьля прыняцьця дозы – на Ухцінскага, там, Саладуху ці Афанасьеву.Так што, шаноўныя майстры культуры, плянуйце свае канцэртныя круізы ў адпаведнасьці з графікам пагашэньня запазычанасьцяў па зарплатах, а ня выплаты пэнсіяў і стыпэндыяў у ПТВ.

## Салодкая радасьць




Прэзікі з музыкай – лепшы сосаб раскруткі для любога выканаўцы

У пачатку красавіка беларускі музычны самародак А.Саладуха прэзэнтуе свой новы альбом. У той жа час на паліцах беларускіх крамаў булдосы знойдуць новую марку піва пад назвай "Саладуха" вытворчасьці Лідзкага піўзаводу. Піва, як лічаць мэнэджэры Сашы, павінна падняць прэстыж выканаўцы сярод моладзі. Крок, канешне, неардынарны і заслугоўвае пераймaньня. Ня тое, што ЛЕПРИКОНСЫ са сваім клерасілам супраць прышчыкаў. Аднак, калі пачаў прамаўтаваць свой прадукт на рынку, трэба зьвярнуць увагу на іншыя аспэкты моладзевай культуры: клей для таксыкаманаў, ролікавыя канькі, і, безумоўна, прэзэрватывы (пажадана, з музычным суправаджэньнем). Згадзіцеся, калі ў самы адказны момант загучыць знаёмая Саладухава мэлёдыя, то вобраз сьпевака будзе асацыявацца выключна з аргазмам ●

# Разборкі на стомэтроўцы

## Зьміцер Вішнёў vs Адам Глёбус vs Вітаўт Іваноў

*«Вішнёў – непрыгожая цётка, якая баіцца пастарэць...»*
Адам Глёбус.
*Наша Ніва*, 29 сакавіка 2002 г.

Адам Глёбус, відаць, гэта німфэтка, якая прагне набыць першы сэксуальны досьвед. Непадобна. Але ці ў гэтым справа, ці ў гэтым сэнс? На першы погляд, здаецца, што заслужаны пісьменьнік вырашыў далучыцца да крытыканцкіх «ганіцеляў і хуліцеляў» творчасьці Зьміцера Вішнёва, які лез са скуры, каб зарабіць сабе рэпутацыю штатнага скандаліста пры Доме Літаратараў.
Але да апошняга часу сам Глёбус быў, як бы мовіць, рэгіянальным і эксклюзіўным дыстрыб'ютарам шырокага асартымэнту скандальных вычварэнстваў, у які ўваходзілі эратычныя апавяданьні пра сэксуальныя стасункі зь нячысьцікамі («Дамавікамэрон»), гэтак і мастацкі авангард самых розных гатункаў. Зьяўленьне новых брэндаў мастацтва, пад якімі пачалі разгортвацца розныя нібы мастацкія прадпрыемствы, безумоўна павінна было парушыць манаполію на тытул «анфан тэрыбль» айчыннай культуры.
Заўважым, што прэзэнтацыя новай кнігі Глёбуса ў бібліятэцы імя Янкі Купалы адбывалася сярод карцін Зьміцера Вішнёва (і на амаль кожнай была намаляваная лабковая вош – «фтырус»), бо той правёў сваю прэзэнтацыю на тыдзень раней.
Творчасьць Вішнёва шмат у чым падобная на творчую спадчыну прызнанага майстра сучаснай літаратуры, перайначыўшы, праўда, на свой капыл творчыя мэтады апошняга. Там – дамавікі, тут – сусьлікі. І той і другі ў сваіх опусах выстаўляе рэальных людзей у пікантных сытуацыях, каб пасьля атрымліваць уяўную асалоду ўлады гэткага папяровага Дэміурга. Абодва малююць у жанры далёкім ад рэалізму карціны. І вось, Вішнёва пачала заўважаць прэса – а журналістаў ня дужа цікавіць, хто ды што там піша ці малюе – акрабаты пяра зазвычай цікавяцца прысмакам сэнсацыі і кічу, на якія Зьміцер Вішнёў і растраціў усю сваю маладую энэргію. На стомэтроўцы прафэсійныя жрыцы мастацтва спакушаць раўніва сякуць, каб якая іншая не зрабіла канкурэнцыі. Мы прапануем вырашыць пытаньне дэмакратычным шляхам – прагаласуйма за намінацыю «анфан тэрыбль» нашага часу ●

**Вітаўт Іваноў**




# Як адыягнУцца

## Па-папсоваму

**4.04 Украінскі парубак Андрэй Данілка** прафэсійна грае на підарскай тэматыцы. Праўда, з-за таго што мажорскі накірунак гей-сцэны плотна заняты браткамі з Масквы, ягоная гераіня Верка Сярдзючка больш блізкая да народу, і займае маргінальна-пралетарскую нішу. **Шоў «Рэвалюцыя працягваецца» глядзіце ў КЗМ**.
**9.04, тамсама**. Тыповы прыклад спэкуляцыяў – выкарыстаньне некалі крута антыўрадавай стылістыкі КВЗ ў мэтах асабістага абагачэньня. Гэтым разам з гастрольным «чосам» у Менск завіталі малакасосы з каманды **КВЗ «Уральские пельмени»** (у кулюарах – «Уродскія пяльмені»). Яны, напэўна, і жывога Гарбачова ні разу ня бачылі...
**10.04, тамсама выступіць Дзіма Малікаў са сваёй «Love story»**.

## Па-нефармальску

**4-5.04, гомельскі клюб «Адрэналін»**. Фанаты рэпу і хардкору зьлюцца ў сьмяротных абдымках на фэсьце моладзевых культур. Намяшалі ў фэсьце ўсіх і адусюль – **КАСТА, KONTRA-DA-BANDA, RASTA, ТТ-34, ЧП і г.д.** Хутчэй за ўсё, міжнародныя культурныя прадстаўнікі разам набухаюцца й пойдуць махацца зь мясцовымі... **Пачатак а 18-00**.
**6.04 У клюбе «Графіці» лабае каманда MOJO BLUES**, якая ўжо гады два як засталася бязь лідэра-вакаліста, які зваліў у ЗША. Злыя панкі ўсё спадзяваліся, что блюзэры разьбягуцца, але фігу...

## З байкерамі

**5.04** Крутыя хлопцы на мацацыклах учыняюць самае натуральнае **байк-шоў – «Першы рык сэзону»**. Барадачы ў касухах пап'юць піва, паслухаюць **КРАМУ, НЕЙРО ДЮБЕЛЬ, DRUM XTC**, паглядзяць **кіно ад Хірурга і шоў ад беларускіх «Начных ваўкоў»**. Ды толькі адно застаецца незразумелым – якое ж гэта байк-шоў... пад дахам? А дзе ж роў тысяч матораў! **Клюб «Рэактар», 22-00.**

## У кіно зь півам

Працягваецца кінапаказ **«Валадара пярсьцёнкаў»** – ні ў якім выпадку не хадзіце!!! Я паглядзеў – там усё сканчаецца на самым цікавым месцы! А працяг яшчэ нават ня зьняты... Тожа мне «Санта-Барбара». Каму ж хочацца талкінуцца – **«Бярэсьце», «Масква», «Кастрычнік»**. Удзень таньней! А ў **«Перамозе»** замест «Брацтва пярсьцёнка» паказваюць **«Брацтва ваўка»**. Можа, працяг на хуткую руку замастырылі? Што тычыцца **«Партызана»**, там таксама балуюцца сэрыяламі – **«Jurassic Park-3»**. Ё-маё, калі ж у гэтых буржуяў дыназаўры скончацца?
У **«Камсамольцы»** паказваюць натуральнае індыйскае кіно. **«Кахай і вер» а 18.00 увесь тыдзень**. Але самае сьлёзабойнае шоў адбудзецца у **«Ракеце»**. Там паказваюць абрыдлы сваёй сапліВасьцю... **«Тытанік»**. Схадзіце, паглядзіце – можа ён выплывеі

## Па-выпяндрожнаму

**З 2.04 Галерэя сучаснага мастацтва (Скарыны, 47). Выстава «Цветоморфозы»** – кожны зь сямі ўдзельнікаў абраў адзін колер. На чарзе – канцэрты, дзе кожны музыкант абярэ адну ноту?
Галоўная ж падзея гэтага тыдню застаецца нязьменнай – сьвята беларускіх алькаголікаў і проста нармальных пацаноў, **выстава «Піва-віно-напоі-2002» у «бабачцы» на Машэрава**, адназначна круцей за кампутаровую **«Tibo» на Бел-ЭКСПА**, што праходзіць у гэты ж час **(2-5.04)**. Там і сустрэнемся...

**Санітар,**
культурны футуроляг






# Рок-н-рол мёртвы, а я яшчэ не...

Барыс Грабеншчыкоў хутка дагоніць Кабзона і Алу Пугачову ня толькі па творчаму даўгалецьцю, але і па коштах на білеты. 30 красавіка адбудзецца юбілейны канцэрт, прысьвечаны 30-годзьдзю гурту. Цікава, што ў касах ужо засталіся білеты толькі па 30 тон. Відаць на 100-годзьдзе АКВАРИУМА білеты будуць па 100 тысячаў? І гэта прытым, што забаўляльная прэса актыўна распаўсюджвае плёткі пра тое, што на БГ сышло прасьвятленьне і той як сапраўдны будыст раздае іх усім, хто ні папросіць. Аднак жа вось аматарам «мёртвага рок-н-рола» прыйдзецца заплаціць за задавальненьне. Такім чынам, «Сястру Хаоса» паслухаюць сумленныя банкіры, гандляры семкамі і найбольш забясьпечаныя прадстаўнікі старажытных прафэсіяў. Студэнтам, пэнсіянэрам і спажыўцам дэкаратыўнай акварыюмнай рыбы просьба не турбавацца – для вас заўсёды знойдуцца танныя пэрфомансы. 10 красавіка ў будынку Мэдунівэрсытэту адбудуцца чарговыя сьвяты мастацтваў, дзе будуць браць удзел ужо вядомыя публіцы шоўмэны, музыканты-электроншчыкі і паэты-(пэрф)-аматары ●

**Сьвін**

# КутОк спажыўцА

## «Раз – і гатова...»

**«Навінкі» прапануюць чытачу компас у моры спажывецкіх тавараў. Нашы экспэрты дапамогуць вам не заблукаць у багацьці паліцаў беларускіх крамаў. Гэтым разам, ідучы насустрач пажаданьням сталых чытачоў, пра прадукты хуткага прыгатаваньня.**

**ВЭРМІШЭЛЬ «РОЛЛТОН»** – адзін з самых танных прадуктаў хуткага прыгатаваньня на беларускім рынку, які з-за сваёй таннасьці незаслужана недаацэнены гурманамі. Спосаб прыгатаваньня па матывах аднайменнай рэклямы: *«Засыпаеце вэрмішэль у нейкае начыньне, заліваеце кіпенем. Каб не губляць час, наразаеце крабавых палачак, адкрываеце банку чырвонай ікры, націраеце 200 грамаў францускага сыру «пармэзан», здымаеце з патэльні смачны кавалак смажанага стэйку, адкаркоўваеце бардо ўраджаю 1989 году (на худы канец падыдзе й маладое бажале) – усё, за 5 хвілін вы атрымалі смачную вячэру».*
**«БЫСТРОСУП» ГАРОХАВЫ З ГРЭНКАМІ** – чарговы прадукт ад Белай курыцы. Ня ведаю, як там гішпанскія куры, а ў мяне сьлінкі бягуць, калі чытаю пра супавыя складнікі: мадыфікаваны крухмал, мальтадэкстрын, экстракт расьлінных бялкоў, узмацняльнік густу й запаху Е-621, рыбафлявін, антыакісьляльнік Е-320. Калі б ведаў ангельскую, абавязкова выдыхнуў: Oh! How delicious! Але паколькі мовамі не валодаю, то дазволю сабе яшчэ адну рэмарку. Спажыўцы быстрасупу могуць бавіцца заключэньнем пары: колькі грэнак будзе ў пакеціку. Зона павышанай рызыкі – ставіць на лічбы, большыя трох.
**БУЛЬБЯНАЕ ПЮРЭ «ОНЕГА»** – адзіны беларускі прадукт сярод экспэртаваных. Як прадэманстравала па тэлебачаньні каманда КВН БДУ, пасьля спажываньня бульбянага пюрэ «Онега» нічога больш не застаецца, як разьвіваць уласнае пачуцьцё гумару. Як інакш можна перажыць той складаны набор эмоцыяў і ўражаньняў ад гэтага прадукту? Тым ня менш, досьвед нашых кавээншчыкаў яскрава сьведчыць: як сьлед разабраўшыся з канцэнтрацыяй, кансыстэнцыяй і квінтэсэнцыяй бульбянага пюрэ «Онега», вы ўпэўнена перамагаеце ў фінале аматараў расейскай дрэні.
Купляйце беларускае! ●

**Алесь Тарапышкін**

# ЛЕпшы падарУнак!

## Navinki Home Video прэдстаўляют СЛУЧАЙ З ПАЦАНОМ.

Юра, нармальны пацан з раёна, сорыцца са свайё малой. У поіске душэўнага спакойствія он рашает устроіцца как усе на работу. Аднака на пуці Юры вазьнікает прэкрасная незнакомка Насьця, акцівістка адной зь дземакрацічэскіх арганізацый. Юра ўзнает, што ў стране сушчэствует какая-та апазіцыя, каторая борэцца з какой-та там дзіктатурай. Сам таго ня зная, глаўны герой пападает у самую гушчу паліцічэскіх інтрыг...

**Усім, хто жадае набыць фільм на відэакасэце, просьба зьвяртацца праз нашыя кантакты:**

**Адрас: 220134, Менск, п/с 33**
**E-mail: maryska@tut.by**

**СЬПЯШАЙЦЕСЯ!**




# СамвыдАт

## Крыніца - D.I.Y.

Вось ужо другі нумар «Крыніцы» выходзіць безь дзяржаўнай падтрымкі. Такім чынам, часопіс зь дзяржаўнага выданьня ператварыўся ў цалкам незалежны праект, і першых двух нумароў за гэты год ужо няма ў продажы. Папулярнасьць тлумачыцца перакладам «Палявых дасьледаваньняў украінскага сэксу» Аксаны Забужкі. Аднак, нягледзячы на цяжкія фінансавыя акалічнасьці, новая вэрсія часопісу мала розьніцца ад папярэдніх. Выключэньне – прадстаўленая ў традыцыйнай рубрыцы постаць пісьменьніка Уладзіміра Арлова, аднаго з аўтараў кнігі «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі», чыя творчасьць не заўсёды была да густу афіцыйным навуковым і літаратарскім колам. Але прычына, відаць не ў палітычных поглядах мяцежных паэтаў, а ў тым, што ўладам непатрэбная культура ўвогуле. Як будзе разьвівацца цяпер часопіс у рынкавых умовах? Мяркуецца два рашэньні. Першае – будуць друкавацца матэрыялы цікавыя, разьлічаныя на масавага чытача, каб часопіс прадаваўся й самаакупаўся. Другое – плаціць будуць тыя, хто хоча друкавацца.

# Палата №...




Наш рэпарцёр атрымаў заданьне высьветліць, чым жа займаюцца дэпутаты ПП НС РБ пасьля працяглага адпачынку. Цьвіком праграмы першага дня паседжаньня стаў дэпутат Фралоў, які вырашыў нізьвергнуць спікера парлямэнту. Усе асобы й падзеі рэальныя, таму ўсялякае падабенства лічыць сапраўдным...




2 красавіка перад паседжаньнем ПП НС РБ нічога не прадвяшчала буры...




Але падзеі разгортваліся самым неверагодным чынам, нібыта ў лацінаамэрыканскім сэрыяле...







Прымаецца самае важнае пытаньне – павестка чарговай сэсіі.







У залі паседжаньняў ідзе напружаная дыскусія...







У кулюарах ідзе напружанае абмеркаваньне новага пакету законапраектаў.




З новай павесткай сэсіі дэпутаты адправіліся на сьвяткаваньне Дня яднаньня брацкіх народаў...







У буфеце дэпутаты абмеркавалі папраўкі ў закон «Аб дзяржаўным рэгуляваньні вырабу й абарачэньні алькагольнай прадукцыі».